# Педагагічная майстэрня

Вопыт

# "Ляцелі шпакі...",

## альбо Новыя шляхі навучання матэматыцы

***Здольнасці выразна мысліць, лагічна разважаць і ясна выкладаць свае думкі ў наш час неабходны кожнаму. Яны патрэбны вучонаму і выкладчыку, урачу і кіраўніку прадпрыемства, аграному і рабочаму, палітычнаму дзеячу і селяніну. Таму развіццё маўлення і мыслення з'яўляецца асноўнай задачай — пачынаючы з дзіцячага сада і заканчваючы аспірантурай.***

Удасканальваць гэтыя здольнасці неабходна ўсё жыццё. Ні ў якім разе нельга аслабляць увагу да іх і ў школе. Ад таго, наколькі паспяхова ўдасца вырашыць гэтыя задачы, залежыць многае, і перш за ўсё — прагрэс грамадства, навукова-тэхнічнае развіццё, эканамічны і культурны росквіт. Вось чаму члены педагагічнага калектыву абавязаны не проста перадаваць веды, якія прадугледжаны праграмай навучання, але і настойліва развіваць мысленне і прывучаць вучняў да правільнай, яснай, пераканаўчай, выразнай, дакладнай і насычанай сэнсам мовы.

Матэматыка, у тым ліку і школьная, мае вялізныя магчымасці для выхавання творчай асобы. Наколькі цікавая, усёмагутная навука матэматыка! Гэтае адкрыццё я зрабіла для сябе, будучы студэнткай Магілёўскага педагагічнага інстытута імя Куляшова. І з таго часу на кожным уроку я спрабую наблізіць дзяцей да таго, каб яны ўсвядомілі гэта значна раней. Вось чаму вядучая ідэя ў маёй педагагічнай і матэматычнай практыцы — максімальна раскрыць перад вучнямі спектр прымянення матэматычных ведаў, асноўная задача — перадаць сваю захопленасць прадметам выхаванцам.

Па праблеме развіцця творчай асобы ў працэсе навучання матэматыцы ў свой час друкавалася шмат прац. Я прапаную некалькі прыёмаў, якія выкарыстоўваюцца мною на ўроках у рознай ступені ў залежнасці ад узросту вучняў, матэрыялу, тэмы, асаблівасцей класа.

Усе прапанаваныя прыёмы нараджаліся паступова на працягу многіх гадоў працы, частка з іх запазычана з вопыту работы іншых настаўнікаў, частка — з метадычных дапаможнікаў, некаторыя прыдуманы мною, але ўсе яны прайшлі праверку часам, падабаюцца дзецям і мне як настаўніку.

### Вуснае лічэнне як цікавая гульня

Адной з асноўных і першапачатковых задач пры навучанні матэматыцы з'яўляецца выпрацоўка ў вучняў навыкаў лічэння. Аднак аднастайнасць заданняў у выглядзе прыкладаў на вылічэнне прытупляе цікавасць як да лічэння, так і да ўрокаў увогуле.

Добра развітыя навыкі вуснага лічэння — адна з умоў паспяховага навучання ў старшых класах. Таму я звяртаю асаблівую ўвагу на вуснае лічэнне з таго самага моманту, калі вучні пераходзяць да мяне з пачатковай школы. Менавіта ў пятых-шостых класах мы закладваем асновы навучання матэматыцы. Не навучым лічыць у гэты перыяд — будзем і самі ў далейшым адчуваць цяжкасці ў працы, і вучні будуць пастаянна рабіць крыўдныя промахі.

Вуснае лічэнне я праводжу так, каб дзеці пачыналі з лёгкага, а потым паступова пераходзілі да вылічэнняў больш цяжкіх. Калі адразу задаваць вучням складаныя вусныя заданні, дык дзеці адчуюць сваё бяссілле, разгубяцца і іх ініцыятыва будзе падаўлена.

Трэба разглядаць два віды вуснага лічэння. Першы — той, пры якім настаўнік не толькі называе лічбы, але і дэманструе іх вучням (запісвае на дошцы, указвае на табліцы, праецыруе на экран з дапамогаю кадаскопа). Падмацоўваючы слыхавое ўспрыманне вучняў, зрокавы рад фактычна робіць непатрэбным утрымліванне гэтых лічбаў у памяці, чым істотна аблягчае працэс вылічэння.

Аднак менавіта запамінанне лічбаў, над якімі робяцца дзеянні, - важны момант вуснага лічэння. Першы від трэба прымяняць, але нельга недаацэньваць і другі від вуснага лічэння, калі лічбы ўспрымаюцца толькі на слых. Вучні пры гэтым нічога не запісваюць і ніякімі наглядными дапаможнікамі не карыстаюцца.

Другі від вуснага лічэння — больш складаны, чым першы. Але ён больш эфектыўны ў метадычным плане, пры той, аднак, умове, што гэтым відам лічэння ўдасца захапіць усіх вучняў. Апошняя акалічнасць — вельмі важная, паколькі пры вуснай рабоце цяжка кантраляваць кожнага вучня.

Я стараюся зрабіць так, каб вуснае лічэнне ўспрымалася вучнямі як цікавая гульня. Тады яны самі ўважліва будуць сачыць за адказамі адзін аднаго, а настаўнік становіцца не столькі кантралёрам, колькі лідэрам, які прыдумвае ўсё новыя і новыя цікавыя заданні.

Раскажу коратка пра некаторыя формы вуснага лічэння.

**Хуткае лічэнне.** Паказваю картку і тут жа гучна прачытваю яе. Вучні вусна выконваюць дзеянні і паведамляюць свае адказы. Карткі хутка змяняюць адна другую, але апошнія заданні прапаную ўжо не з дапамогай картак, а толькі вусна.

**"Роўнае лічэнне".** Запісваю на дошцы практыкаванне з адказам. Вучні павінны прыдумаць свае прыклады з такім жа адказам. Іх прыклады на дошцы не запісваюцца. Дзеці павінны на слых успрымаць названыя лічбы і вызначаць, ці правільна складзены прыклады.

**"Лічэнне-дапаўненне".** Запісваю на дошцы які-небудзь лік, напрыклад 3. Потым павольна называю лік, меншы, чым 3. Вучні ў адказ павінны назваць іншы, які дапаўняе дадзены лік да 3. Тыя лічбы, якія называю я і якія даюць вучні, не запісваюцца. Гэтым забяспечваецца трэніроўка ў запамінанні лічбаў.

**"Спяшайся, ды не памыліся".** Гэтая гульня — фактычна матэматычны дыктант. Я павольна прачытваю заданне за заданнем, а вучні ў сшытках пішуць адказы.

**"Не зявай".** Вучні кожнага рада атрымліваюць па картцы. У першага вучня ў радзе заданне запісана поўнасцю, а ва ўсіх астатніх замест першага ліку стаіць шматкроп'е. Пра тое, што хаваецца за шматкроп'ем, вучань даведаецца толькі тады, калі яго таварыш, які сядзіць наперадзе, паведаміць яму адказ у сваім заданні. Гэты адказ і будзе лікам, якога не хапае. У такой гульні ўсе павінны быць вельмі ўважлівымі, таму што памылка аднаго ўдзельніка перакрэслівае працу ўсіх астатніх.

Павелічэнне разумовай нагрузкі на ўроках матэматыкі прымушае задумвацца над тым, як падтрымліваць актыўнасць вучняў на працягу ўсяго ўрока, стымуляваць іх да самастойнага набыцця ведаў.

Для мяне вельмі важна, у якім эмацыянальным стане прыйшлі да мяне вучні на ўрок: узбуджаныя пасля няўдала напісанай дыктоўкі або стомленыя пасля цяжкай кантрольнай работы па фізіцы ці хіміі. Таму на пачатку ўрока, каб настроіць вучняў на свой урок, я прапаную ім лагічныя задачы. Яны бываюць рознымі. Для зняцця стомы выкарыстоўваю лёгкія. Прывяду некалькі прыкладаў.

1. Ляцелі шпакі, і ўбачылі яны дрэвы. Калі селі па адным на дрэва, дык аднаму шпаку не хапіла дрэва, а калі на кожнае дрэва села па два шпакі, дык адно дрэва засталося незанятым. Колькі было шпакоў і колькі дрэў? Адказ: 4 шпакі, 3 дрэвы.

2. Лена, Света, Таня ўдзельнічалі ў бегу на 100 м. Лена прыбегла на 2 секунды раней за Свету, Света прыбегла на 1 секунду пазней за Таню. Хто прыбег раней: Таня або Лена і на колькі секунд? Адказ: раней на 1 секунду прыбегла Лена.

### Геаметрычны вопыт дзіцяці

Педагагічная аксіёма: творчы патэнцыял настаўніка вызначаецца яго творчым стаўленнем да праграмы і падручніка.

Хачу расказаць пра тое, з якімі цяжкасцямі сутыкаецца кожны настаўнік матэматыкі пры выкладанні такога яе раздзела як геаметрыя.

Развіццё логікі і інтуіцыі (геаметрычнай у прыватнасці) — дзве важнейшыя раўнапраўныя функцыі геаметрычнай адукацыі. Пуанкарэ пісаў: "Даказваюць пры дапамозе логікі, вынаходзяць пры дапамозе інтуіцыі". Геаметрыя, як бадай ніякі іншы прадмет, садзейнічае развіццю гэтых якасцей, паколькі лагічны і інтуітыўны аспекты ў гэтым прадмеце пераплятаюцца найбольш цесна. Дыялектычнае адзінства дзвюх супрацьлеглых тэндэнцый, якое мы назіраем у геаметрыі і якога няма сёння ў ніводным іншым прадмеце, якраз і робіць гэтую дысцыпліну унікальным і неабходным прадметам.

Добра вядома, які вялізны шлях у сваім інтэлектуальным развіцці праходзіць дзіця ў першыя пяць-шэсць гадоў свайго жыцця. У багатым багажы яго ўяўленняў пра навакольны свет геаметрычнае ўяўленне займае адно з цэнтральных месцаў. Геаметрычны вопыт шасцігадовага дзіцяці — настолькі шматгранны, што калі гаварыць пра развіццё непасрэдных наглядна-геаметрычных уяўленняў, дык вывучэнне геаметрыі ў школе можа многае да яго дадаць. Дзіця дашкольнага ўзросту шмат ведае і ўмее рабіць сваімі рукамі. Яно адчувае вялізнае задавальненне ад геаматрычных гульняў, практыкаванняў, літаральна ад усяго, што звязана з геаметрыяй (маляванне, канструяванне, лепкі і г.д.). Менавіта на гэты ўзрост прыпадае пік, калі можна так сказаць, геаметрычнай актыўнасці дзіцяці.

Але вось дзіця паступае ў школу, і жывая плынь яго геаметрычнай актыўнасці, замест таго, каб быць успрынятай і накіраванай у вучэбнае рэчышча, фактычна спыняецца. На працягу першых пяці-шасці гадоў навучання геаметрыі даецца вельмі мала. У праграмах і падручніках для малодшых класаў па матэматыцы, калі гавараць пра геаметрыю, зусім не ўлічваецца ні разумовае развіццё дзіцяці, ні яго ўзроставыя асаблівасці. На каго, напрыклад, разлічана праграма, якая патрабуе, каб вучань на выхадзе з 5-6-х класаў умеў распазнаваць прасцейшыя фігуры: квадрат і прамавугольнік, круг і акружнасць, куб і шар? Бо ў школу прыходзіць не Маўглі, які вырас сярод дзікай прыроды і ў жыцці не бачыў прамавугольніка, а дзіця, якое для гульні ў футбол ніколі не брала куб, а дзіцячыя домікі ўзводзіла не з шароў. Магчыма, нехта з дзяцей не ведае назваў некаторых геаметрычных фігур, хаця цудоўна знаёмы з імі. Каб хоць часткова вырашыць гэтую праблему і ўжо ў 5-6-х класах знаёміць вучняў з некаторымі ўласцівасцямі геаметрычных фігур, я ў сваёй працы выкарыстоўваю такі від дзейнасці, як складанне матэматычных казак самімі вучнямі.

Спачатку ў многіх дзяцей казкі не атрымліваюцца, але паступова знаёмства з лепшымі з іх, а таксама гутаркі з вучнямі даюць свой плён. Выкарыстоўваю таксама на ўроках рэбусы, крыжаванкі.

### Самі складаем задачкі і самі рашаем

Якія ж канкрэтныя метадычныя шляхі развіцця творчых здольнасцей вучняў на ўроках матэматыкі?

На гэтае пытанне ў адносінах да ўрока адказаў савецкі псіхолаг В.А.Круцецкі. Ён лічыць, што развіццё творчых вучэбных здольнасцей школьнікаў звязана з самастойным творчым авалоданнем матэматыкай, з самастойнай пастаноўкай нескладаных матэматычных праблем, са знаходжаннем шляхоў і метадаў іх вырашэння, з "вынаходніцтвам" доказаў тэарэм, самастойным вывядзеннем формул, са знаходжаннем арыгінальных спосабаў рашэння нестандартных задач.

Для мяне даўно ўжо стала аксіёмай, што на ўроку важна не толькі і нават не столькі перадаваць вучням новую інфармацыю, колькі фарміраваць у іх уменне і патрэбу вучыцца, вучыць іх працаваць з рознымі крыніцамі ведаў, у першую чаргу з падручнікам, кнігай, даведнікам, навучаць вучняў планаваць уласную дзейнасць, прагназаваць вынікі, ацэньваць іх. Абавязковай умовай высокай выніковасці сучаснай матэматычнай адукацыі з'яўляецца актыўная самастойная праца вучняў па вывучэнні матэматыкі, яе асноўных ідэй і метадаў, яе практычнага прымянення. Такая работа садзейнічае і фарміраванню актыўнай жыццёвай пазіцыі школьнікаў.

Самастойная праца можа разглядацца як дыдактычны сродак, з дапамогай якога настаўнік арганізуе дзейнасць вучня на ўроку і пры выкананні хатняга задання. У залежнасці ад умення ставіць мэту ў сваёй рабоце, планаваць яе дасягненне, выдзяляюць розныя віды самастойнай пазнавальнай дзейнасці. Напрыклад, пастаноўку мэты і планаванне работы вучань ажыццяўляе з дапамогай настаўніка. У другім выпадку з дапамогай настаўніка ажыццяўляецца толькі пастаноўка мэты, а планаванне дзейнасці выконваецца вучнем самастойна. Нарэшце, і пастаноўка мэты, і планаванне ажыццяўляецца вучнем самастойна ў рамках задання, якое дае настаўнік, або нават уся работа ажыццяўляецца вучнем па яго ўласнай ініцыятыве, ён сам вызначае яе змест, мэту, план дзеянняў і самастойна яе выконвае.

Для таго, каб прывучыць вучняў да самастойнай дзейнасці, я выкарыстоўваю і такія формы работы, як правядзенне нестандартных урокаў: урок-канферэнцыя, урок-аганёк, урок-бенефіс, агляд ведаў, урок-лабірынт, урок-казка і іншыя, якія павышаюць цікавасць да матэматыкі. На ўроках ствараецца сітуацыя поспеху, вучням даводзіцца шукаць інфармацыю ў даведачнай літаратуры.

Вялікую ўвагу я ўдзяляю і факультатыўным заняткам, праводжу пазакласныя мерапрыемствы па матэматыцы.

Вядома, што адукацыйны ўзровень у нашых вучняў падае. Псіхолагі даказалі, што вучань запамінае 5 працэнтаў інфармацыі, калі слухае нецікавую лекцыю; 10 працэнтаў, калі сам працуе над літаратурай; 20 працэнтаў, калі выкарыстоўваецца аўдыё- або відэазапіс; 30 — пры дэманстрацыі доследаў; 50 — у дыскусіі; 75 — у накіраванай практыцы; 90 — калі навучае іншых. Таму ў сваёй працы настаўнік павінен арыентавацца на такі выбар тэхналогіі, якая дазваляе навучыць іншых.

### Выбіраем тэхналогію поўнага засваення

Цяпер вельмі шмат гавораць пра тэхналогіі. Але што ж такое тэхналогія? Існуе вялікая колькасць розных азначэнняў, але ўсе яны даюць нам агульнае тлумачэнне паняцця "тэхналогія" — — techne — мастацтва, майстэрства, і logos — навука, закон. Даслоўна "тэхналогія" — навука аб майстэрстве.

Педагагічная (адукацыйная) тэхналогія — гэта педагагічна і эканамічна абгрунтаваны працэс дасягнення запланаваных вынікаў у выглядзе ведаў і ўменняў, які ажыццяўляецца на аснове спецыяльна перапрацаванага зместу, а таксама паэтапнага тэсціравання вучняў.

З мэтай удасканалення выкладання матэматыкі ў сваёй працы я выкарыстоўваю элементы новых тэхналогій. Хачу спыніцца больш падрабязна на тэхналогіі поўнага засваення.

Праблемы:

1. Роскід паспяховасці школьнікаў пры засваенні імі базавага зместу адукацыі (сучасная фармуліроўка) тлумачыцца не іх здольнасцю або нездольнасцю, а няўменнем арганізаваць працэс навучання ў адпаведнасці з індывідуальнымі асаблівасцямі ўспрымання і засваення.

2. У традыцыйным вучэбным працэсе два параметры заўсёды фіксаваныя: тэмп навучання і спосаб падачы вучэбнага матэрыялу. Мы тлумачым і патрабуем так, як быццам перад намі знаходзіцца адзін вучань, а не дзесяткі дзяцей з рознымі асаблівасцямі ўспрымання, асэнсавання, запамінання.

3. Адзінае, што застаецца незафіксаваным, — гэта вынікі навучання. Нашы "тройкі", "чацвёркі", "пяцёркі" за засваенне вучнем базавага зместу адукацыі фактычна азначаюць дыферэнцыяцыю таго, што не можа быць дыферэнцыявана, бо павінна быць засвоена ўсімі поўнасцю.

4. Здольнасці вучня вызначаюцца яго тэмпам навучання не пры сярэдніх, а пры аптымальна падабраных для кожнага дзіцяці ўмовах. Б.Блум вывучаў здольнасці вучняў пры навучанні розным прадметам ва ўмовах, калі час на вывучэнне матэрыялу не абмяжоўваўся. Ён вылучыў дзве катэгорыі вучняў:

а) малаздольныя, якія не ў стане дасягнуць загадзя намечанага ўзроўню ведаў і ўменняў нават пры вялікіх затратах вучэбнага часу (каля 5 працэнтаў);

б) таленавітыя (каля 5 працэнтаў) — могуць вучыцца ў высокім тэмпе;

в) звычайныя вучні, якія складаюць большасць (90 працэнтаў), чые здольнасці па засваенні ведаў і ўменняў вызначаюцца затратамі вучэбнага часу.

Высноваd: пры правільнай арганізацыі навучання, асабліва калі няма абмежаванняў у часе, абсалютная большасць школьнікаў у стане поўнасцю засвоіць абавязковы вучэбны матэрыял. Паводле тэхналогіі поўнага засваення, адрозненне ў вучэбных выніках будзе мець месца за межамі патрабаванняў да абавязковых вынікаў навучання.

У рамках названай тэхналогіі планаванне вучэбнага працэсу накіравана на тое, каб падвесці ўсіх вучняў да адзінага, дакладна вызначага ўзроўню авалодання ведамі і ўменнямі.

Асноўныя характарыстыкі тэхналогіі поўнага засваення:

1. Агульная ўстаноўка настаўніка: усе вучні могуць і павінны засвоіць вучэбны матэрыял поўнасцю.

2. Распрацоўка крытэрыяў (эталонаў) поўнага засваення курса, раздзела або вялікай тэмы.

Гэта — падрыхтоўчая работа, змест якой уключае ў сябе канкрэтызацыю і ўдакладненне мэт вучэбнай дзейнасці вучняў у выглядзе запланаваных вынікаў, якія ён павінен прадэманстраваць пасля вывучэння тэмы (курса). Іх асаблівасць заключаецца ў тым, што яны фарміруюцца ў выглядзе ўменняў (дзеянняў, якія можна назіраць, паводзінавага рэпертуару), якія не дапускаюць пашыранага або двайнога тлумачэння.

На гэтай аснове распрацоўваюцца (падбіраюцца) тэсты (праверачныя работы) для праверкі дасягнення запланаваных мэт.

3. Увесь вучэбны змест разбіваецца на асобныя вучэбныя часткі (у іншых публікацыях розных аўтараў — "вучэбныя элементы", "адзінкі зместу", "невялікія блокі" і г.д.).

Асноўныя іх асаблівасці заключаюцца ў тым, што яны закончаныя па сэнсе (змястоўная цэласнасць) і невялікія па аб'ёме (3-6 урокаў). Вучань пастаянна павінен трымаць у полі сваёй дзейнасці планаваны канчатковы вынік і ўсе свае дзеянні накіроўваць менавіта на дасягненне гэтых вынікаў, атрымліваючы ў выпадку ўдачы разнастайныя заахвочванні (стымулы), асноўным з якіх з'яўляецца само паспяховае дасягненне абранай мэты.

4. Да кожнай вучэбнай адзінкі распрацоўваюцца дыягнастычныя тэсты і карэкцыйны дыдактычны матэрыял. Дыягнастычныя тэсты служаць толькі арыенціровачным падмуркам для засваення зместу і, як правіла, не ацэньваюцца. Асноўнае прызначэнне тэстаў — выяўленне неабходнасці карэкцыйнай работы.

Карэкцыйны дыдактычны матэрыял прымяняецца пры паўторным тлумачэнні пасля аналізу дыягнастычных тэстаў і высвятлення, якія інтэлектуальныя аперацыі (запамінанне, разуменне, прымяненне, аналіз, сінтэз, ацэньванне) не засвоены школьнікамі.

Сюды могуць уваходзіць гатовыя апорныя канспекты, абагульняльныя табліцы, схемы, малюнкі, кадры дыяфільмаў, фрагменты відэафільмаў, абсталяванне для індывідуальных эксперыментаў і г.д., да падручніка (каментаванае чытанне). Гэтыя матэрыялы разлічаны на такую дадатковую прапрацоўку незасвоенага матэрыялу, якая адрозніваецца ад першапачатковага спосабу яго вывучэння, дае магчымасць вучню выбраць прыдатны для яго спосаб работы.

Паслядоўнасць крокаў пры навучанні:

1. Арыентацыя вучняў. Настаўнік з самага пачатку паведамляе сваім вучням, што яны пачынаюць вучыцца "па-новаму", і па новай методыцы ў класе, па-першае, не будзе непаспяваючых, а па-другое, колькасць добрых і выдатных адзнак нічым не абмежавана. Бо не сакрэт, што пры традыцыйным навучанні адзнака вучня часта залежыць не ад фактычных вынікаў навучання, а ад таго, у якім класе, у якой школе, у якога настаўніка ён вучыцца.

Потым настаўнік знаёміць дзяцей з тым, як яны будуць вучыцца, каб дасягнуць поўнага засваення. У практыцы работы па гэтай сістэме асноўны акцэнт звычайна робіцца на наступных ідэях:

— клас будзе вучыцца па новым метадзе, які дазваляе дасягнуць добрых вынікаў, але не нейкай яго частцы, а ўсім вучням;

— кожны вучань атрымлівае адзнаку толькі на падставе выніку заключнай праверкі, па выніках усяго курса;

— адзнака кожнага вучня вызначаецца не параўнаннем з вынікамі іншых вучняў, а загадзя вызначаным эталонам. Тут трэба ўказаць эталон вышэйшай (выдатнай) адзнакі;

— кожны вучань, які дасягну гэтага эталона, атрымлівае адзнаку "выдатна";

— колькасць выдатных адзнак не абмяжоўваецца. Адпаведна ўзаемадапамога не змяншае магчымасці кожнага атрымаць выдатную адзнаку. Калі ўсе вучні класа дапамагаюць адзін аднаму, усе добра вучацца, дык і ўсе могуць заслужыць выдатную адзнаку;

- кожны вучань атрымлівае любую неабходную дапамогу. Там, калі ён не можа засвоіць матэрыял адным спосабам, яму будуць прадастаўлены іншыя, альтэрнатыўныя, магчымасці;

- на працягу ўсяго курса навучання кожны вучань атрымлівае серыю "дыягнастычных" праверачных работ (тэстаў), прызначаных для кіравання яго ростам. Вынікі гэтых праверак не ацэньваюцца адзнакамі. Звесткі па выніках праверак служаць толькі для таго, каб вучань мог лягчэй знаходзіць незразумелае або памылкі і выпраўляць іх;

— у выпадку ўзнікнення цяжкасцей пры выкананні бягучых праверачных работ кожнаму вучню адразу ж будзе дадзена магчымасць выбраць альтэрнатыўныя вучэбныя працэдуры, каб дапамагчы пераадолець цяжкасці, недастатковае разуменне або памылкі

— гэтыя магчымасці выбару трэба адразу ж выкарыстоўваць, не дазваляючы памылкам або няяснасцям збірацца і ўскладняць далейшую вучэбную дзейнасць.

Як відаць, ужо на пачатковым этапе работы выразна прасочваецца асноўная рыса ўсёй сістэмы — накіраванасць вучэбнага працэсу на запланаваны канчатковы вынік.

2. Вучэбны працэс разбіваецца на блокі, якія адпавядаюць папярэдне выдзеленым вучэбным адзінкам (звычайна іх паслядоўнасць адпавядае выкладанню матэрыялу ў выбраным настаўнікам вучэбным дапаможніку).

3. Выкладанне новага матэрыялу і яго адпрацоўка вучнямі адбываецца традыцыйна. Аднак уся вучэбная дзейнасць праходзіць на падставе арыенціраў, якія ўяўляюць сабой дакладна, канкрэтна сфармуляваныя вучэбныя мэты (іх пералік ужо аб'яўлены вучням як эталон, на аснове якога будуць ацэньвацца вучэбныя вынікі). Пасля вывучэння і адпрацоўкі вучнямі пэўнай вучэбнай адзінкі праводзіцца праверачная работа (дыягнастычны тэст), вынікі якой аб'яўляюцца адразу пасля яе выканання. Адзіным крытэрыем ацэнкі з'яўляецца эталон поўнага засваення ведаў і авалодання ўменнямі.

4. Пасля выканання праверачнай работы вучні падзяляюцца на дзве групы: тыя, хто дасягнуў, і тыя, хто не дасягнуў поўнага засваення ведаў і авалодання ўменнямі. Вучні, якія дасягнулі поўнага засваення на патрэбным узроўні, могуць вывучаць дадатковы матэрыял, дапамагаць адстаючым аднакласнікам або могуць проста быць свабоднымі — да пачатку вывучэння наступнай вучэбнай адзінкі. Асноўную ж увагу настаўнік удзяляе тым вучням, якія не змаглі прадэманстраваць поўнае засваенне матэрыялу. З імі праводзіцца дапаможная (карэкцыйная) вучэбная дзейнасць. Для гэтага напачатку выяўляюцца прагалы ў ведах і ўменнях. Па той частцы вучэбнага матэрыялу, якая належным чынам не засвоена большасцю дзяцей, праводзіцца заняткі з усёй групай, выкладанне матэрыялу паўтараецца нанава, прычым спосаб выкладання змяняецца. Напрыклад, матэрыял падаецца з выкарыстаннем наглядных дапаможнікаў або тэхнічных сродкаў навучання, якія не прымяняліся пры яго першым выкладанні, прымяняюцца дадатковыя віды вучэбнай дзейнасці дзяцей і г.д.

Пры запаўненні частковых прагалаў і зняцці цяжкасцей нярэдка выкарыстоўваецца індывідуальная работа настаўніка з вучнем. Асноўнай формай работы ў гэтым выпадку з'яўляецца работа дзяцей у невялікіх падгрупах (па 2-3 чалавекі), іх узаемнае навучанне, выкарыстанне дапамогі тых вучняў, якія паспяхова засвоілі раздзел (вучэбную адзінку).

5. Дапаможная работа завяршаецца праверкай (дыягнастычным тэстам), пасля якой магчыма дадатковая карэкцыйная работа з тымі, хто ўсё яшчэ не дасягнуў патрэбнага ўзроўню (поўнага засваення). Клас пераходзіць да вывучэння новай вучэбнай адзінкі толькі тады, калі ўсе, або амаль усе, вучні на належным узроўні засвоілі змест папярэдняй вучэбнай адзінкі. Што датычыць ацэначных меркаванняў (не выстаўленне адзнак), дык усе фармуліроўкі вынікаў прамежкавага (дыягнастычнага) кантролю адносяцца да тыпу "засвоіў — не засвоіў" (залік — незалік). Аднак гэта не азначае, што выказванні настаўніка будуць зводзіцца менавіта да такога роду сухіх ацэнак. Ацэначныя меркаванні звычайна маюць змястоўны характар і падтрымліваюць, падбадзёрваюць вучня.

Ацэнка ж у выглядзе традыцыйнай адзнакі выстаўляецца па выніках кантрольных работ, якія ахопліваюць або ўвесь курс, або матэрыял вялікага раздзела, куды ўваходзіць некалькі вучэбных адзінак.

Пасля праверкі кантрольных работ настаўнік рыхтуе для кожнага вучня агляднуюінфармацыю, якая канкрэтызуе звесткі падагульняльнай праверкі, прывязваючы іх да раздзелаў курса (вучэбных адзінак). Для такой канкрэтызацыі прымяняецца ўжо складзеная настаўнікам табліца спецыфікацыі мэт па ўсім курсе; з дапамогай крыжыкаў адзначаюцца запланаваныя мэты поўнага засваення, замяняюцца ўмоўнымі абазначэннямі таго выніку, які дасягнуты вучнем у адносінах да гэтых мэт. Напрыклад, "з" — поўнае засваенне; "н/з" — няпоўнае засваенне. Такія звесткі даюць вучню магчымасць самастойна арыентавацца ў атрыманых ведах і эфектыўна запоўніць прагалы як пры падрыхтоўцы да пераздачы раздзелаў курса (калі трэба), так і ў ходзе далейшага навучання.

Укараненне элементаў новых тэхналогій на ўроках матэматыкі, з аднаго боку, стварае спрыяльныя ўмовы для работы кожнага вучня (адначасова ўзнікае такая неабходная для многіх вучняў сітуацыя поспеху), а з другога — вучні свядома стараюцца працаваць якасна і хутка, імкнуцца выканаць больш складаныя віды заданняў.

**Тамара АЛЯКСЕЕНКА,**
**настаўніца матэматыкі сярэдняй школы № 2 Слаўгарада.**

# Эрудыт-лато

***Правілы гульні наступныя: з аднаго боку пляцоўкі садзяцца гульцы, з другога — гледачы. Вядучы задае пытанне і чытае варыянты адказаў. Гульцы падымаюць таблічку з літарай, якая, на іх думку, абазначае правільны адказ. Асістэнты вядучага раздаюць жэтоны тым, хто адказаў правільна. Пераможца гульні з гледачамі мае права аддаць жэтон любому гульцу. Тыя, хто набраў большую колькасць балаў (жэтонаў), прымаюць удзел у другім туры. Можна адказы пад літарай "Г" зрабіць вясёлымі, як быццам ад імя Нязнайкі.***

## Тэма: заалогія

**I тур. Гуляюць усе.**

1. Прэснаводная гідра адносіцца да тыпу: а) прасцейшыя; б) **кішачнаполасцевыя**; в) малюскі; г) лернейскія.

2. Калі да гідры дакрануцца тонкай іголкай, то яна: а) раздражняецца; б) **сціскаецца ў камячок**; в) узбуджаецца; г) дае здачы.

3. Від сіметрыі ў белай планарыі; а) **двухбаковы**; б) няма сіметрыі; в) што гэта, увогуле, такое?

4. Від размнажэння ў аскарыды; а) пачкаванне; б) бясполае; в) **палавое**; г) ну, і пытанні дзецям да 16 гадоў...

5. У целе аскарыды ўтрымліваецца: а) крухмал; б) клятчатка; в) **цукар**; г) не, ну хто яе каштаваў?

6. Змагацца са шкоднымі насякомымі можна з дапамогай: а) фунгіцыдаў; б) **інсектыцыдаў**; в) гербіцыдаў; г) трэба злавіць насякомае і ўцерці яму ў спінку 1 г сродку "Машанька".

7. Дажджавыя чарвякі з'яўляюцца на паверхні зямлі звычайна: а) пасля засухі; б) **пасля дажджу**; в) толькі ўдзень; г) каб рыбакоў падражніць.

8. Якога колеру кроў у васьмінога: а) чырвоная; б) зялёная; в) **блакітная**; г) ну, я ж у яго аналіз не браў.

9. Для выкормлівання малькоў рыбы выкарыстоўваюць дробных рачкоў, якія называюцца: а) кентаўрамі; б) геркулесамі; в) **цыклопамі**; г) шварцанегерамі.

10. У каго паводле легенды разззлаваная багіня ператварыла дзяўчыну, якая ўмела прасці лепш за яе? а) у тутавага шаўкапрада; б) **у павука**; в) у павуціну; г) у ткачыху-перадавіка вытворчасці.

Музычная паўза. Балельшчыкі чытаюць вершы або выконваюць песні пра жывёл.

**II тур. Гульня з гледачамі.**

Як па-навуковаму называецца жывёла, за якой паляваў казачны Дурамар? (П'яўка медыцынская).

**III тур. Гульня з пераможцамі.**

1. Як называецца адна са стадый развіцця насякомых? а) бразготка; б) машынка; в) **кукалка**; г) ну, вы яшчэ скажыце "Мерседэсік" або Барбі.

2. Вучоныя лічаць, што самы доўгі марскі чарвяк лінеус дасягае ў даўжыню: а) да 10 м; б) 15 м; в) **да 30 м**; г) я яго мераў, ці што?

3. Жук-шкоднік бульбы называецца: а) амерыканскім; б) тэхаскім; в) **каларадскім**; г) гэта ж і дзіця ведае.

4. Як называецца кішачнаполасцевая жывёліна, якая жыве разам з ракам-пустэльнікам і абараняе яго ад ворагаў з дапамогай жыгучых клетак? а) **актынія**; б) ламінарыя; в) планарыя; г) сек'юрыці.

5. Навошта жыхары Самоа выкарыстоўваюць буйнога чарвяка палола? а) для нажыўкі; б) на корм жывёле; в) **самі ядуць**; г) аддаюць у выглядзе гуманітарнай дапамогі ў Еўропу.

## Тэма: батаніка

**I тур. Гуляюць усе.**

1. Увесь жывёльны свет на Зямлі падзяляецца на: а) герцагствы; б) каралеўствы; в) **царствы**; г) дэпартаменты.

2. Мукор адносіцца да царства: а) бактэрый; б) раслін; в) **грыбоў**; г) да каралеўства Ліхтэнштэйн.

3. Органы раслін — гэта: а) плады; б) **атожылкі**; в) кветкі; г) рукі і ногі.

4. Слова "батаніка" перакладаецца з грэчаскай мовы як: а) кветка; б) **трава**; в) корань; г) у Грэцыі ўсё ёсць.

5. У гароху плод называецца: а) струк; б) сямянка; **в) боб**; г) Пакацігарошак.

6. Зялёныя пластыды называюцца: а) храмапласты; б) **хларапласты**; в) лейкапласты; г) спытайце ў Мічурына.

7. Клубні — гэта відазмяненні: а) сцябла; б) кораня; в) **атожылка**; г) мундзіра.

8. Вада і мінеральныя рэчывы рухаюцца па: а) **драўніне**; б) асяродку; в) кары; г) на метро.

9. У лісцях на святле ўтвараецца: а) вуглякіслы газ; б) цукар; в) **крухмал**; г) "Фанта".

10. Калякветнік без венчыка называецца: а) аднадомным; б) **простым**; в) адзінарным; г) без цара.

Тайм-аўт. Балельшчыкі чытаюць вершы і спяваюць песні пра кветкі.

**II тур. Гульня з гледачамі.**

Як называюцца кветкі, якія маюць толькі тычынкі або толькі песцікі? (Раздзельнаполыя).

**III тур. Гульня з пераможцамі.**

1. Як называецца плод земляніці? а) ягада; б) касцянка; в) **сямянка**; г) хто яго ведае.

2. Як называецца плод грэчкі? а) касцянка; б) **арэх**; в) сямянка; г) лягчэйшых пытанняў няма.

3. Расліна, здольная сама абараняцца ад насякомых з дапамогай: а) гербіцыдаў; б) **фітанцыдаў**; в) пестыцыдаў; г) мускулаў.

4. Казку "Пунсовая кветачка" напісаў: а) Тургенеў; б) **Аксакаў**; в) Пушкін; г) а хто ён такі, гэты ваш Пушкін?

**Галіна КАПЕЦКАЯ,**
**настаўніца гімназіі Светлагорска.**

